

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№5 (191). 1 — 7 лютага 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 120 руб.


НАВІНЫ

## Чей ритуал лучше?

**Гродненский облисполком подвел итоги конкурса среди отделов загсов горрайисполкомов области на лучший ритуал.**

За содержательность и форму проведения ритуала, образность текстовых обращений отмечен отдел загса Зельвенского райисполкома.

За сценическую культуру, режиссуру, форму одежды отмечен отдел загса Слонимского райисполкома.

За музыкальное оформление, символику, использование традиций и национальных особенностей в ритуале отмечены отделы загсов Слонимского и Дятловского райисполкомов.

Михаил ОКУЛКО

## Пазбавіўся пасады

**Пазбавіўся сваёй пасады дырэктар Рагозніцкага крухмальнага завода Мастоўскага раёна Іван Квартнік.**

Ён меў неасцярожнасць увосень падтрымаць на выбарах Генадзя Дылеўскага, які называў сябе незалежным. Старшыня гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко давёў да ведама Квартніка, што той болей не будзе працаваць на гэтай пасадзе. Многія палічылі, што пагроза не здзейсніцца, бо яшчэ два месяцы чалавек кіраваў прадпрыемствам. На сённяшкі дзень Іван Квартнік адпраўлены ў адпачынак, але болей на гэтую пасаду не вернецца.

## Грошы знайшліся

**У мінулы чацвер рабочыя лесацэха ААТ "Мастоўдрэў" спрабавалі наладзіць забастоўку з прычыны няўыплаты заробатнай платы.**

Генеральны дырэктар Віктар Буры давёў да іх ведама, што калі будуць грошы, то будуць і выплаты. Арганізаванага выступлення рабочых не адбылося, бо на наступны дзень працаўнікам лесацэха сталі выплочваць заробак за мінулы месяц.

## Пажарнікам — 30 літраў

**Недахоп паліва адчуваецца не толькі ў калгасах і саўгасах РБ.**

Паліва бракуе на аўтамашыны спецслужбаў. Так у Мастах запраўка адной пажарнай машыны складае 30 літраў паліва.

## Трэнажоры ад амерыканцаў

**Мастоўскае аддзяленне Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" атрымала ад адной амерыканскай дабрачыннай арганізацыі каштоўны падарунак: шматфункцыянальны трэнажор для развіцця мышцаў цела.**

Падарунак сапраўды карысны. І кошт яго не меншы за тысячу даляраў. Раней гэтая арганізацыя падарыла мастаўчанам два падобных трэнажоры.

## Дзесяцібальнае Дубна

**Дубненская сярэдняя школа Мастоўскага раёна ў рамках эксперыменту поўнасцю перайшла на дзесяцібальную сістэму адзнакі ведаў.**

На яе базе быў праведзены раённы семінар. Дзесяцібальную сістэму ўвялі і ў Пацавіцкай сярэдняй школе.

Антон МАКЕЙ

# НОЧЬ НА СЛОНИМСКОМ ВОКЗАЛЕ

РЕПОРТАЖ




Фота Віталя Гіля

**Недавно корреспонденты "ГС" решили провести ночь на слонимском вокзале. Известно, что коротать время в подобном месте, особенно в провинции, не очень приятно.**

Пятница, 9 часов вечера. У здания вокзала выстроилась вереница такси в ожидании пассажиров, которые прибывают в Слоним на гродненском дизеле. "Девушка, вы уже приехали? Может подвезти вас?" — ненавязчиво поинтересовался один из водителей авто. Услышав, что я никуда не еду, а ночую на вокзале, добрый таксист сказал: "Жалко мне вас. Вокзал — это не очень подходящее место для ночевки". Но я уже не слушала его, так как обратила внимание на старика, собиравшего бутылки. Старик выглядел очень плохо, казался каким-то болезненным, он искал стеклянную тару в мусорных бачках, просил пустую посуду у молодых людей, пьющих пиво. "Пенсии не хватает, — пояснил мужчина, заметив, как я пристально слежу за ним, — вот и приходится заниматься дополнительным заработком". Он медленно пошел от меня в поисках пустой тары. Да, вечер начинался с неприятной картины.

**(Продолжение на 2 стр.)**

# СУД СКОРЫ І СПРАВЯДЛІВЫ

**Упраўляючы справамі горада Масты Мастоўскага райвыканкама Аляксандр Цярэшка на судзе прызнаў сябе вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў.**

26 снежня нечакана для многіх супрацоўнікаў Мастоўскага райвыканкама Аляксандр Цярэшка напісаў заяву на звальненне па ўласнаму жаданню. Абмежаваная колькасць людзей ведала, што 29 студзеня будзе разглядацца яго справа. Як сціпла патлумачылі дасведчаныя людзі, справа датычыла кватэрнага пытання. Паколькі следства не мела шырокай агалоскі, то і суд быў кароткім. Суддзя Мікалай Герасімчык у прысутнасці абвінавачваемага зачытаў сутнасць справы. Апошні адразу пагадзіўся з вылучанымі супраць яго абвінавачваннямі.

Прадстаўнік пракуратуры Марына Росенік запрасіла для абвінавачваемага ў якасці пакарання штраф памерам 110 мінімальных заробкаў. Праз 15 хвілін ад пачатку працэсу, суд пайшоў раіцца. Наступнае пасяджэнне яго адбылося праз дзве гадзіны. Былы чыноўнік з Мастоў у якасці пакарання атрымаў 100 мінімальных заробкаў альбо 360.000 рублёў штрафу.

Язэп ПАЛУБЯТКА

# "ВОЛЮ ДА РАЗВІЦЦЯ" ХАЦЕЛІ АБРАБАВАЦЬ ЯШЧЭ РАЗ

**Мінулымі выхаднымі зноў былі ўзламаны дзверы кватэры, дзе месціцца слонімскае грамадскае аб'яднанне "Воля да развіцця" на Брэсцкай вуліцы.**

Аднак нічога каштоўнага ў памяшканні злодзеі не знайшлі. Напомнім, што ў ноч з 18 на 19 кастрычніка 2000 года з кватэры арганізацыі "Воля да развіцця" была ўкрадзена ўся аргтэхніка: камп'ютэры, тэлефон-факс, ксеракс. Міліцыя праводзіла расследаванне, але вярнуць грамадскаму аб'яднанню нічога не змагла.

Па словах старшыні "Волі да развіцця" Міхася Варанца, пасля мінулагодняга абрабавання было вырашана ўстанавіць сігналізацыю і здаць кватэру пад ахову слонімскаму гарадскому аддзелу аб'яднання "Ахова" пры МУС Беларусі. У мінулую пятніцу Міхась Варанец набыў неабходнае для ўстаноўкі сігналізацыі абсталяванне. Спецыялісты з "Аховы" павінны былі ў аўторак, 30 студзеня, у 8.30 пачаць устаноўку сігналізацыі...

Пасля папярэдняга крадзяжу ў кватэры не было ніякай аргтэхнікі. На думку Міхася Варанца, злодзеі гэтага не ведалі, а таксама меркавалі, што абсталяванне для сігналізацыі знаходзіцца на месцы ўстаноўкі і хацелі ўсё гэта ўкрасці. На гэты раз пацярпелыя ў міліцыю не звярталіся, бо, па словах кіраўніка аб'яднання "Воля да развіцця", "для гэтага ёсць важкія падставы, звязаныя з папярэднім абрабаваннем".

Тым часам хваля рабаванняў грамадскіх арганізацый прайшла па ўсёй Беларусі. У ноч з 26 на 27 студзеня з Брэсцкага цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятыў "Вежа" злодзеі вынеслі 6 камп'ютэраў ды іншую аргтэхніку. Такія ж выпадкі адбыліся і ў іншых гарадах Беларусі.

Сяргей ЁРШ

ЗДАРЭННІ

## Прычына ўсіх бед — п'янства

**У 2000 годзе за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства да адміністратыўнай адказнасці зэльвенскай міліцыяй былі прыцягнуты 1805 чалавек, у асноўным, калгаснікі.**

Шэсць хранічных алкаголікаў накіраваны на лячэнне.

За дробнае хуліганства на Зэльвеншчыне затрымана 559 грамадзян. Узбуджана 15 крымінальных спраў па факту сямейных скандалаў.

## Пад пагрозай нажа

**Раней судзімыя слонімцы зайшлі ў хату да аднаго з жыхароў Альбярціна і, пагражаючы нажом, патрабавалі ў яго грошай.**

Такім чынам рабаўнікі забралі 29 тысяч рублёў. Вядзецца праверка.

## Укралі завушніцу і іншыя рэчы

**На вуліцы Даватара знікла завушніца, а на Ружанскай вуліцы — асабістыя рэчы.**

Злодзеямі аказаліся непаўнагадовыя. Міліцыя іх затрымала.

## Далёка не заехалі

**З Брэсцкай вуліцы ўкралі аўтамабіль "VW-Гольф". Праз пэўны час міліцыя яго знайшла каля Слонімскага сельскагаспадарчага ліцэя.**

Міліцыя шукае рабаўнікоў.

## Знік шыфер

**У аднаго з жыхароў вёскі Куцэйкі Слонімскага раёна злодзеі ўкралі шыфер.**

Міліцыя іх злавіла.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Плакалі далярчыкі

**У грамадзяніна Н. з Дзятлава знаёмы пазычыў 1500 даляраў ЗША.**

Мінуў год, а даўжнік так і не вярнуў грошы.

Між іншым, такія выпадкі цяпер у раёне не рэдкасць.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

НАВІНЫ

## Грипп наступает

**В Беларуси в течение прошедшей недели начался рост заболеваемости ОРЗ и гриппом.**

По словам главврача районного центра гигиены и эпидемиологии Слонима Анатолия Тепина, в городе пока что наблюдаются единичные случаи заболеваемости гриппом и ОРЗ. Вспышка инфекции в Слониме только начинается.

По словам заведующей иммунопрофилактики и спецнадзора за воздушно-капельными инфекциями Республиканского центра гигиены и эпидемиологии Светланы Тарарук, с 22 по 28 января за медицинской помощью обратилось 46630 человек в 18 контрольных городах, в том числе Барановичах, Гродно, Лиде.

## Кадравыя змены ў медвучылішчы

**Днямі выконваючым абавязкі дырэктара Слонімскага медвучылішча быў прызначаны Ігар Грыцук.**

30 год гэту пасаду займаў Ігар Ваньковіч, які зараз пайшоў на заслужаны адпачынак.

Але Ігар Казіміравіч застаецца ў медвучылішчы выкладаць хірургію і грамадзянскую абарону.

Вольга ШЫНКЕВІЧ

НАВІНЫ

## Коммунисты будут участвовать в президентских выборах

**В минувшую субботу, 27 января, на третьем заседании VI съезда Партии коммунистов Белорусской делегаты однозначно высказались за участие ПКБ в предстоящих осенью этого года президентских выборах.**

В принятом решении отмечено, что партия на выборы идет самостоятельно с выдвижением своего кандидата — первого секретаря ЦК ПКБ Сергея Калякина, за которого коммунисты ПКБ и будут собирать необходимые для регистрации 100 тысяч подписей.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК**

## Інвалідам у апошнюю чаргу

**Былыя працаўнікі ААТ "Мастоўдрэў", якія ў свой час на вытворчасці атрымалі калецтвы і зараз атрымліваюць пенсіі па інваліднасці ў заводскай касе, вымушаны чакаць.**

Звычайна грошы яны атрымлівалі пасля выплаты заробку рабочым таго цэха, дзе яны працавалі раней. А паколькі выплата заробку на прадпрыемстве ў студзені затрымліваецца, то адпаведна затрымліваецца і пенсія.

## "Салодкае" жыццё

**Сялян калгаса "Караліно" Зэльвескага раёна неўзабаве чакае "салодкае" жыццё.**

На працягу трох месяцаў ім не выплачвалі заробак. Няма грошай у калгаснай касе і зараз, але кіраўніцтва гаспадаркі паабяцала ў хуткім часе разлічыцца з сялянамі ... цукрам.

**Антон МАКЕЙ**

ОПРОС

## Даже в любви признаться негде ...

**После трудовой недели обычно хочется и отдохнуть. А у каждого из нас свои способы для того, чтобы забыть о неприятностях и проблемах, хотя бы на некоторое время.**

**"Где отдыхает сегодня молодежь Слонима?" — с таким вопросом корреспондент "ГС" обратилась к молодым людям нашего города.**

**И вот, что она услышала:**

**Веселуха Лилия:**



— В Слониме нет ни одного места, где бы можно было отдохнуть молодым семьям с детьми. Например, нет детского бара. Есть один молочный бар на Брестской улице, но для многих людей это далеко. Желательно открывать подобные заведения в центре города. У нас же в Слониме нет романтических мест, где парень может признаться в любви девушке.

**Ваня, Слава,** *учащиеся СШ N9:*

— Молодые люди в Слониме могут сходить на дискотеку, где можно потанцевать, побеседовать с друзьями. Мы, например, ходим на "Оскар". Летом в парке бываем, любим посидеть у Щары. Зимой предпочитаем быть дома, потому что холодно.

**Анищик Сергей,** *студент академии МВД,* **Русак Роман,** *студент Жировичского аграрно-технического колледжа:*



— Свободное время проводим с друзьями на дискотеке, знакомимся с девушками.

**Еромчик Светлана,** *1-й секретарь ГК ОО БПСМ:*

— У нас в Слониме три основные дискотеки: "Оскар", "Мастер", "Импульс", где молодые люди могут отдохнуть. Однако люди постарше себя чувствуют не совсем уютно вместе с 12-14-летними. Поэтому они идут в рестораны, но не всем это удовольствие по карману, так как цены сейчас высокие. Лучше всего, по-моему, отдыхать в кругу семьи, с друзьями, с хорошей компанией. Летом можно выехать на природу.

**Шмелев Николай:**

— В Слониме негде отдохнуть молодежи. У нас нет таких мест, где бы человек мог просто посидеть, поговорить, не напиваясь. У нас в барах, на дискотеках нет определенных мест для курения, что не очень удобно для некурящих людей.

**Сивоха Марина,** *студентка Барановичского колледжа легкой промышленности:*

— Например, летом отдыхаю на пляже или гуляю по городу с друзьями. Бываю на дискотеке "Оскар", там много молодежи, весело. Можно пойти в бар.

**Татьяна, Ольга,** *студентки Слонимского медучилища:*



— Отдыхаем на дискотеках или просто гуляем с друзьями по улицам города.

**Черкашина Анна, Панасеня Наталья, Бетко Ольга,** *учащиеся ПТУ-129:*



— Когда решаем провести время вместе, идем в ресторан или бар. Еще — на дискотеку. А если честно, то в Слониме нет такого места, где бы можно было нормально отдохнуть.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, Виталий ГИЛЬ (фото)**

НАВІНЫ

## Запрасіла польскае пасольства

**Імя Эдуарда Арочкі, колішняга старшыні калгаса "Рассвет" Слонімскага раёна, а цяпер пенсіянера, вядомае чытачам нашай газеты па шэрагу публікацый на сельскагаспадарчыя тэмы.**

А на мінулым тыдні Эдуард Іосіфавіч завітаў у рэдакцыю і паведаміў, што атрымаў ліст з пасольства Польшчы ў Беларусі, у якім яго запрашаюць прыняць удзел ва ўрачыстасці з выпадку завяршэння конкурсу "Польшча — наша прыязная суседка".

Справа ў тым, што ў "ГС" №48 за 23-29 лістапада 2000 года быў надрукаваны артыкул Эдуарда Арочкі "Польшча — прыязная суседка Беларусі", які наш аўтар паслаў на конкурс. І вось цяпер Эдуард Іосіфавіч збіраецца ў польскае пасольства ў Мінск, дзе яго чакае заахвочвальная прэмія. З чым мы шчыра віншуем нашага аўтара.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## У Дзятлаве новы ваенкам

**Міністр абароны РБ сваім загадам прызначыў на гэту пасаду Валянціна Абухава, які да гэтага працаваў намеснікам ваеннага камісара Дзятлаўскага райвыканкама.**

Валянціну Аляксеевічу 35 гадоў, ён жанаты, мае дваіх дзяцей.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Прэмія за паэзію

**Паэт Юрка Голуб (нарадзіўся ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна) атрымаў літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Паэт быў адзначаны прэміяй за вершы апошніх гадоў, апублікаваныя ў перыядычным друку.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# НОЧЬ НА СЛОНИМСКОМ ВОКЗАЛЕ

**(Продолжение. Начало на 1 стр.)**

На улице стоять было холодно. Решила посидеть в зале ожидания. Надо сказать, что там было намного теплее, однако специфический запах внутри ненавязчиво гнал прочь. Тем не менее, пришлось терпеть. В зале ожидания людей было немного, где-то около 20 человек. Тишину нарушал пьяный дед, который пытался что-то рассказать сидящей рядом с ним женщине его возраста. "Если ты не замолчишь, — не выдержала старушка, — я тебя ударю своей палкой". Однако охотник поболтать оказался не из числа трусливых и еще с большим выражением и азартом продолжал свой монолог. Люди веселились, глядя на то, как общаются эти два человека. Рядом со мной сидели три женщины, которые коротали время нервным поеданием семечек и рассматривали людей вокруг себя. Уставшие, измученные ожиданием люди, как мне показалось, с подозрением бросали на меня взгляды, когда я делала в блокноте пометки. Но вскоре они потеряли ко мне всякий интерес. Центром их внимания стала группа молодых людей, которые затеяли потасовку. Это немного взбудоражило публику. Дремавшие проснулись. Но не надолго. К всеобщему негодованию все быстро прекратилось. И уже никто не нарушал покой собравшихся, примерно до 22.05, когда пришел гродненский дизель. Люди быстренько подхватили свои вещи и рванули на перрон. Вокзал опустел до следующего прихода поезда.




Время шло, и мой организм требовал пищи. Но все пункты питания вокруг были закрыты. "Слонимский вокзал — не самое лучшее место для ожидания из числа подобных заведений, какие я только видел", — поделился своими впечатлениями молодой человек, который пришел сюда, чтобы встретиться с друзьями. "Вечером, если захочешь поесть, надо идти в центр, а здесь никак нельзя это сделать", — продолжил мой случайный знакомый.

На мое недоумение, почему именно здесь он встречается с друзьями, он ответил: "А где же еще? Вот, приходим по вечерам на вокзал, чтобы поговорить, на людей посмотреть, а потом расходимся". Интересно получается, молодым людям больше негде поговорить, кроме как на вокзале...

"Вот раньше интересно было, — продолжал делиться впечатлениями мой случайный знакомый Денис, — здесь, на вокзале, была группа молодых хулиганов, которые занимались тем, что встречали людей с поездов, забирали деньги, вещи. Теперь подобного уже нет. Почти нет."



"А разве здесь нет милиции?" — поинтересовалась.

"Они только днем дежурят, а вечером что-то я их на вокзале не вижу". Для убедительности он подвел меня к двери милицейского пункта. Действительно, на дверях с надписью "Милиция" висел замок. Стрелки часов показывали 22.30. "Они редко вечером приезжают, — сказал Денис. — Так и запиши".

К часу ночи вокзал опустел. Только мы бродили по этому зданию, встречали прибывавшие поезда, наблюдали, говорили с людьми. Я подумала, неплохо было бы изменить хоть что-то на нашем вокзале, чтобы людям было удобно и уютно коротать время в ожидании поездов.

Уже после двух часов ночи сон одолевал меня, поэтому я отправилась домой.

"Как же я не люблю вокзалы!" — подумала, засыпая в теплой кровати.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, Виталий ГИЛЬ (фото)**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі ..........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 31 студзеня 2001г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (льготная)
Наклад 9500 экз.
Заказ № 380

НАВІНЫ

## СЕМІНАР БАРДАЎСКАГА МАЙСТЭРСТВА



Фота Віталя Гіля

**Семінар бардаўскай песні адбыўся ў Слоніме 27 студзеня. Яго правёў вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч.**

Арганізатарам семінару выступіла нефармальная група аматараў беларускага року са Слоніма. Такія мерапрыемствы плануецца праводзіць адзін раз у месяц.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## КЛУБ ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ ДЗЕЙНІЧАЕ

**У Слоніме працуе клуб творчай моладзі.**

Першая сустрэча маладых слонімскіх паэтаў і бардаў адбылася напрыканцы мінулага года ў дзіцячай бібліятэцы №1. У гасцях у маладых творцаў быў паэт Ян Данута. І вось сёлета, 28 студзеня, творчая моладзь сабралася ў цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці, каб паслухаць вершы Алены Ржэуцкай і сябе паказаць.

На сустрэчы гучалі вершы і песні бардаў, вяліся размовы пра лёс Радзімы і стан беларускай мовы. У гутарках паднімаліся праблемы ўзаемаадносін чалавечай асобы і грамадства. Ішла гаворка пра апошнія дасягненні сусветнай навукі — магчымасць кланіравання чалавека.

Арганізатары мерапрыемства мяркуюць, што падобныя сустрэчы будуць адбывацца, прыкладна, раз у месяц. А ў планах клуба творчай моладзі ў будучым — выпуск калектыўнага зборніка вершаў і песень маладых слонімскіх аўтараў.



Фота Віталя Гіля

**На здымку:** слонімская паэтка Алена Ржэуцкая

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## НА РАДОСТЬ ЛЮДЯМ

**Говорят, что число 13 — несчастливое. Однако для участников народного хора ветеранов войны и труда "Память" при РДК это не так.**

Именно столько лет эти люди занимаются любимым делом — поют.

"Сейчас в репертуаре хора более 30 песен, — рассказывает руководитель "Памяти" Казимир Деконский. — А в 1995 году наш хор получил звание народного".

Не стареющие душой участники хора радуют своим пением не только слонимчан по праздникам, но и выезжают на конкурсы, смотры в другие города.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



Фота Віталя Гіля

ПОШТА



## *Хочу дать советы всем, кто хочет бросить курить!*

*Сама курила 7 лет, 2 из которых мечтала бросить, но ни разу не пыталась этого сделать. Вот сейчас уже год не курю! И даже не хочется, не смотря на курящих рядом коллег. Из всего прочитанного мной сделала вывод, что не так важна сила воли как решимость. Твердая и непоколебимая. Ещё важно выяснить для себя психологические причины курения. Я курила "за компанию" с подругами, потом, со временем, компания разошлась, а привычка курить осталась. Некоторые курят 2 сигареты в день — так можно и не бросать.*

*Если твердо вынести решение с завтрашнего дня бросить курить, то завтра нужно так и поступать. Стоит себе дать поблажку, как наш мозг будет нами же и управлять, постоянно находя отговорки. Следующий этап тоже психологический: найти союзника — некурящего человека, который не будет издеваться: " Что, опять бросаешь?! .."*

*Ещё лучше (в моём варианте), если от выполнения этого обещания Вы будете очень сильно зависеть. Мой будущий муж обещал жениться на мне в случае полугодового срока без курения. Можно сказать, шантаж пошел на пользу. Себе можно пообещать и ..не выполнить, а вот обещая другому — нужно сдержать слово, иначе рухнет то, на что сильно рассчитываете. Мне также помогли гомеопатические таблетки от курения. Я обратила внимание, что курю я не меньше, но не употребив таблетку перед курением, испытываю противные ощущения, что не возможно было докурить сигарету даже до середины. Так я понимала, что это очень мерзкая и неприятная привычка, не смотря на отсутствие у меня одышки, кашля, и т.п. вещей.. и крепла в желании бросить. А потом просто перешла с полторы пачки в день на 20 сигарет в день, через неделю уже полпачки в день, потом неделю по 5 сигарет в день. Всё время говорила себе, что через месяц уже не буду курить. Представляла, сколько денег и времени не буду тратить, не буду одежду поливать духами, дабы отбить запах.. и т.д. Наступил день, когда я выкурила 1 сигарету. Потом день, когда я сказала себе: "С сегодняшнего дня я как все люди стала, не курящая!" Я воздействовала на свою психику. После было ощущение, когда постоянно надо чем-то занимать рот. Вот когда начинают есть. А я жевала жвачки минуты 3 и выплевывала. В день уходила парочка "Стиморолов". Но и это забылось через месяц. Надеюсь, мои советы помогут, главное — верить в успех!*

***С уважением Наташа***

## *Книги в подарок артиллеристам*

*Хороший подарок сделал своим подчиненным полковник Мацкевич Михаил Павлович. В пользование воинам-артиллеристам он передал 200 книг из личной библиотеки.*

*Самые разные книги собирались Михаилом Павловичем на протяжении многих лет его офицерской службы. Внутренний мир и становление офицера формировали произведения классиков, литература советского периода, книги военно-патриотического и исторического жанра, произведения, посвященные Родине и настоящим людям.*

*Михаил Павлович является примером для двух своих сыновей, которые так же выбрали офицерскую стезю. Теперь книги из личной библиотеки полковника Мацкевича будут помогать в воспитании новых поколений защитников Отечества.*

*Благодаря этому подарку удалось создать небольшие библиотечки в санчасти, караульном помещении, в комнатах досуга, а так же пополнить книгами библиотеку части, в которую книги не поступали уже почти 10 лет. Теперь любой солдат, где бы он ни находился, сможет выбрать себе книгу по вкусу.*

*От имени всех воинов-артиллеристов хочется поблагодарить полковника Мацкевича Михаила Павловича за этот чудесный подарок.*

***Виталий КУСЕНКОВ***

## *Спасибо!*

*Мы, жители Лобазовки, не можем оставить без внимания оказанную нам помощь в электрическом освещении улиц Багратиона, Подлесной, Виленскаой, а так же в нормальной работе городского транспорта. Жители района Лобазовка остались довольными реагированием на наши пожелания и выражают искреннюю благодарность редакции "Газеты Слонімскай", а также директору автопарка №3 Владимиру Николаеву и заместителю начальника раена электросетей Анне Армяновской. Благодаря названным руководителям, за короткое время были устранены недостатки, касающиеся транспорта и освещения улиц.*

*Сейчас дополнительно в утренние часы продлен маршрут автобуса №6, что очень устраивает детей и их родителей. В связи с этим, жители Лобазовки высказывают самые наилучшие пожелания этим людям в новом году, в новом тысячелетии!*

*Еще раз спасибо вам, дорогая редакция, Владимир Николаевич и Анна Сергеевна.*

*С уважением от жителей Лобазовки*

***И. И. ЕРЕМЕЙЧИК***

## *Письмо из Америки*

*Здравствуйте, уважаемая редакция "Газеты Слонімскай"!*

*Меня зовут Диана Данченко. Я слонимчанка. Сейчас, правда, я живу и учусь в США. Недавно просто "бродила" по интернету в поисках белорусских газет и наткнулась на нашу, родную и независимую. Честно, не ожидала!*

*Я всё время просила своих родных и друзей рассказывать мне о том, что в Беларуси делается. А здесь я читаю статьи о нашем городе, о моей гимназии (непривычно звучит, ведь, когда я уезжала, она значилась как школа №6), о некоторых моих знакомых. Согласитесь, сюрприз большой и хороший!*

*Мне особенно интересно было читать статью о кружке журналистов. Дело в том, что я здесь изучаю журналистику как предмет в школе и вдобавок работаю корреспондентом в школьной газете (это что-то вроде местного издания).*

*У меня вопрос: как часто вы обновляете информацию в интернете и почему нет последних номеров газеты?*

*И еще интересная вещь: на картах в нашей школе Беларусь представлена под бел-чырвона-белым флагом.*

*До свидания. Успехов вам!!!*

***Диана ДАНЧЕНКО, США***

## *Ищу тебя*

*Здравствуйте, уважаемая редакция "Газеты Слонімскай". Читаю вашу газету регулярно, но пишу впервые. Думаю, что с вашей помощью я смогу найти одного человека. О нем я знаю совсем мало, но все же не теряю надежду встретиться с ним.*

*Начну все с начала. В настоящее время я учусь в Минске в университете. В Барановичах в в электричке я увидела его, привлекательного молодого человека спортивного телосложения. Всю дорогу мы смотрели в глаза друг другу, разговаривали на разные темы, смеялись, шутили, нам было весело.*

*Зовут его Игорь, он живет в Минске. А в тот день он возвращался домой от своей бабушки, которая живет в Барановичах. Игорь — профессиональный спортсмен, и вид спорта у него — кикбоксинг. Он много путешествует.*

*А еще я узнала, что у Игоря в Слониме есть друг, который, я надеюсь, поможет мне его найти. Я знаю, что его друг уже женился, и свадьба бала на Энке. А на ней был и Игорь.*

*Вот и все, что я знаю об Игоре, который мне очень сильна запал в душу. Он всю дорогу мне давал понять, что я ему очень понравилась, а один раз он сказал об этом прямо. Игорь мне тоже очень сильно понравился, но ... я ему этого не успела сказать. Те три с половиной часа поездки для меня были самыми прекрасными. А на прощание он поцеловал меня. Игорь взял у меня и номер телефона, и минский адрес, но так и не дал о себе ничего знать, хотя уже прошло почти два месяца (это произошло 5 декабря 2000 года).*

*Осталась у меня одна надежда на друга Игоря. Пожалуйста, этот друг, если ты читаешь данное письмо и понял, о ком идет речь, то сообщи мне телефон и адрес Игоря. А свои координаты я оставляю в редакции "Газеты Слонімскай". Я хочу быть с Игорем. Быть может, это и есть то, что люди обычно называют словом "Любовь"?*

***Инна***

# ЛУЧШИЙ МУЗЫКАНТ ВЕКА — ВЛАДИМИР МУЛЯВИН

**На 7-м фестивале белорусской рок-музыки "Рок-коронация — 2000", который недавно прошел в Минске, рекордное число призов досталось группе "N.R.M.".**

Она вновь получила главный приз — Хрустальную рок-корону — как лучшая группа года. Победителем в номинации "Лучший альбом года" также стала группа "N.R.M." за альбом "Тры чарапахі", презентация которого состоялась в конце 2000 года. Одноименная композиция из альбома стала лучшей песней года. Обладателем короны в номинации "Лучший текст к песне" стал музыкант "N.R.M." Лявон Вольский. Он же получил премию в номинации "Лучший музыкант года".

Что касается видеоклипов, то и здесь группу "N.R.M." никто не смог обойти. Видео на песню "Чыстая светлая" в режиссуре Анатолия Вечера было названо клипом года.

Победителем в номинации "Событие года" стал Алесь Суша — продюсер очередного проекта белорусских музыкантов, который называется "Я нарадзіўся тут. Фотаальбом".



*Владимир Мулявин*

В номинации "Традиции и современность" победила группа "Юр'я".

Открытием года стала группа "Безь білета".

Лучшим музыкантом века безоговорочно признан Владимир Мулявин.

# БЕЛОРУССКИЕ ПЕНСИОНЕРЫ СТАНУТ БОГАЧЕ

**С 1 февраля в Беларуси увеличатся размеры пенсий, сообщает Министерство социальной защиты.**

Так, минимальная пенсия возрастет на 11,8 процента и составит 23 тысячи 293 рубля, размер средней пенсии по возрасту будет равен 43.800 рублей, а максимальная пенсия увеличится на 15,3 процента и составит для неработающих пенсионеров 67.937 рублей, для работающих — 49.314 рублей. Для выплаты пенсий в феврале фонду социальной защиты населения будет необходимо 108 миллиардов 237 миллионов рублей, что на 14 миллиардов 152 миллиона больше, чем в январе.

Необходимость перерасчета пенсий вызвана ростом заработной платы рабочих и служащих, а также увеличением бюджета прожиточного минимума.

# ВОСЕМЬ МИЛЛИОНОВ ЗА ТРИ ГОДА УЧЕБЫ

**Двум бывшим курсантам третьего курса Военной академии Республики Беларусь, отчисленным за недисциплинированность, придется возместить государству средства, затраченные на их обучение.**

По сообщению Белорусской военной прокуратуры, два иска на возмещение ущерба на общую сумму восемь миллионов рублей принял к рассмотрению суд Первомайского района Минска.

Подобные иски к бывшим курсантам Военной академии предъявляются впервые. Дело в том, что согласно положению "О порядке и условиях заключения контракта на прохождение службы офицерским составом в Вооруженных Силах Республики Беларусь", утвержденному правительством в сентябре 1993 года, возмещение курсантами, отчисленными за недисциплинированность или по нежеланию продолжать службу, расходов, затраченных на их образование, предусмотрено не было. Только в середине прошлого года соответствующие дополнения были внесены в этот документ.

**БелаПАН**

# РАЗГОВОР ПО ТЕЛЕФОНУ ПОДОРОЖАЛ

**В Беларуси впервые в нынешнем году выросли тарифы на услуги электросвязи. Повышение коснулось внутриреспубликанских тарифов.**

В частности, на 15 процентов (с 380 до 437 рублей) выросла абонентская плата за пользование телефоном, переведенным на повременную оплату. В свою очередь, стоимость минуты разговора по такому телефону с абонентом, проживающим в том же населенном пункте, увеличилась на 8 процентов (с 1,98 до 2,14 рубля).

Стоимость минуты разговора между абонентами одной области повысилась с 5,4 до 6 рублей, между абонентами разных областей — с 10,8 до 12 рублей (в обоих случаях на 11 процентов).

Электронная магнитная карточка на 120 минут для внутригородских разговоров по таксофону подорожала на 8 процентов (с 935 до 1.010 рублей).

Кроме того, выросли плата за



Фота Віталя Гіля

пользование радиоточкой мощностью до 1 ватта (на 10 процентов — со 105 до 116 рублей), пользование факсами коллективного пользования, а также тарифы на пересылку телеграмм по территории республики.

**БелаПАН**

## НАВІНЫ

### Выстава польскіх графікаў

**У Гродзенскай выставачнай зале Саюза мастакоў адкрылася выстава польскіх графікаў Ежы Панэка і Іааны Галецкай.**

Ежы Панэк — прызнаны ў свеце майстар чорна-белай гравюры па дрэве. Ён прадставіў гарадзенцам свае працы з цыклаў "Капернік", "Невідушчыя эратаманы" і інш. Іаана Галецкая ў цыкле твораў "Жыццё ў краіне Феліцыі" паказвае глыбокае ўнутранае жыццё жанчыны. Выстава будзе доўжыцца да канца лютага.

### Новы храм у Гродне

**У Гродне будуецца новы каталіцкі храм - Касцёл Божай Міласэрнасці.**

Ён з'явіцца ў мікрараёне Вішнявец, дзе цяпер жыве амаль 80 тысячаў гарадзенцаў.

Паводле звестак кіраўніцтва храма, на сённяшні дзень парафія новага касцёла налічвае пяць тысячаў сем'яў, каля 14 тысячаў вернікаў каталіцкага веравызнання. Пакуль касцёл будуецца, набажэнствы праводзяцца ў памяшканнях гарадской базы гародніны. На нядзельную імшу рэгулярна прыходзіць каля дзвюх тысяч чалавек. Набажэнствы вядуцца на польскай мове.

### Минералогический музей

**В средней школе № 16 города Гродно открылся первый в этом тысячелетии белорусский музей — минералогический.**

Посетители музея могут увидеть 870 экспонатов горных пород и изделий из камня, изготовленных руками школьников. Создал новый музей местный геолог Владимир Жданюк.

Музей работает три дня в неделю, два раза в рабочие дни и один в выходные дни для гостей областного центра.

**Павел МОЖЕЙКО**

### Марихуана в служебном купе

**На минувшей неделе белорусские таможенники выявили 304 факта нарушения законодательства, по которым изъято товаров и ценностей на сумму 463 миллиона 757 тысяч рублей.**

С 22 по 28 января таможенниками изъято более 53 тысяч долларов США, почти 45 тысяч немецких марок, свыше 5 тысяч польских злотых, 98 тысяч российских рублей и другая валюта на общую сумму 92 миллиона 325 тысяч рублей.

Так, 27 января Ошмянской таможней возбуждено уголовное дело в отношении гражданина России. Следуя из Беларуси на автомобиле "Тойота-Камри", он произвел недостоверное декларирование более 11 тысяч долларов США и 7 тысяч российских рублей. Днем ранее Верхнедвинской таможней возбуждено уголовное дело в отношении неустановленного гражданина, который пытался переместить через границу 63,57 грамма марихуаны. Наркотики были обнаружены в служебном купе проводников поезда "Воронеж — Рига" в подарочной упаковке с постельным бельем.

**Алексей ОРЕШКО**

# БЕЛАРУСКІЯ ЖАНЧЫНЫ Ў НЯДОЛІ

**Па выніках сацыялагічнага даследавання "Маштабы беднасці сярод жанчын Рэспублікі Беларусь", абсалютная большасць беларускіх жанчын (95%) лічаць, што за апошнія два гады не адбылося пазітыўных зрухаў у сацыяльна-эканамічнай сітуацыі краіны.**

64,3% жанчын мяркуюць, што эканамічнае становішча пагоршылася. Большасць апытаных вельмі востра ўспрымаюць праблему нізкіх даходаў і недахопу грошай. 62,3% вельмі непакоіць будучыня дзяцей. Кожная другая жынчына скардзіцца на сур'ёзныя праблемы са здароўем. 40,7% жанчын увесь час адчуваюць стомленасць. Па ўзроўню сумарнага грашовага даходу ў месяц 74% жанчын адносяцца да катэгорыі бедных (іх даход не перавышаў 40 тысячаў беларускіх рублёў). Па суб'екўыўных ацэнках, 64% жанчын лічаць сябе беднымі. З іх 13,6% адносяць сябе да катэгорыі галечы. Найгоршыя паказчыкі па маштабах беднасці займае Гродзенская вобласць (80,0%). Брэсцкая вобласць выглядае самай прыстойнай: там маштаб беднасці склаў 58,9%. Паводле аналізу, зробленага сацыёлагам Аляксандрай Аляксандравай, беднасць менш звязаная з сацыяльнымі фактарамі і больш — з асабістымі і псіхалагічнымі.

Усяго было апытана 778 жанчын з 65 населеных пунктаў краіны.

**Б.П.**

# СКОЛЬКО СТОИТ ЗОЛОТО?

**Постановлением Министерства экономики Беларуси установлены цены на драгоценные металлы в изделиях и ломе, скупаемые у физических лиц. Это не касается банковских и мерных слитков, а также монет.**

К утвержденному постановлению прилагается прейскурант, который содержит скупочные цены в рублях по пробам за грамм металла. Так, скупочная цена за один грамм золота в изделиях и ломе самой низкой пробы — 333-й — составляет 2 тысячи 920 рублей; за один грамм 583-й или 585-й пробы — 5 тысяч 130 рублей. Скупочная цена за один грамм золота самой высокой пробы — 958-й — установлена в сумме 8 тысяч 401 рубль.

Один грамм серебра в изделиях и ломе самой низкой пробы — 500-й — государство принимает у граждан по цене 74 рубля; скупочная цена одного грамма серебра 925-й пробы составляет 137 рублей; самой высокой пробы — 960-й — 142 рубля за грамм металла.

Скупочная цена за один грамм платины в изделиях и ломе установлена в сумме 17 тысяч 895 рублей.

# МИЛИЦИОНЕРОВ ОБВИНЯЮТ В ПОЛУЧЕНИИ ВЗЯТКИ

**29 января в Гомеле начался судебный процесс по обвинению бывших сотрудников отдела внутренних дел Советского района города в получении взятки.**

Им инкриминируется получение 200 долларов США за прекращение уголовного преследования гомельчанина, который на самом деле никакого отношения к расследуемому преступлению не имел. Молодая женщина-следователь оговаривала условия передачи вознаграждения, а второй сотрудник помогал в техническом проведении "операции".

Согласно договоренности, мужчина положил деньги в автомобиль, стоявший в условленном месте и в оговоренное время. Однако до этого потерпевший обратился за помощью в управление КГБ по Гомельской области. В деле есть звукозаписи двух бесед, которые вела следователь с выбранной жертвой. Однако подсудимая свою вину не признает, ссылаясь на то, что брала деньги для возмещения ущерба



Фота IREX/ProMedia

потерпевшим по расследуемому ею уголовному делу.

Пикантность ситуации состоит также в том, что обвиняемая является дочерью начальника одного из управлений Гомельского облисполкома.

**Ирина ШАНЦЕВА**

# СТАНУТ ЛИ МЕДИКИ ЧЕТВЁРТОЙ ВЛАСТЬЮ?

**Среди 1000 пар, зарегистрировавших в течение последних трех месяцев свой брак в Минском Дворце бракосочетаний, 586 женихов оказались старше своих невест, 198 — примерно одного возраста, в остальных парах (216) — мужчины моложе своих невест на 5 и более лет; один из молодых людей зарегистрировал брак с женщиной, которая на 30 лет старше его.**

Такие данные привел первый заместитель главы Администрации президента Владимир Заметалин, выступая на отчетной коллегии Министерства здравоохранения. Заместитель главы президентской администрации считает, что подобные факты свидетельствуют о проблемах нашего времени, когда "молодые люди, похожие на мужчин, прячутся за узкие женские плечи", не хотят служить в армии, боятся быть инженерами и хирургами, а "все хотят быть экологами".

Заметалин назвал и другие проблемы, в разрешении которых могли бы принять участие медицинские работники: раннее "знакомство" школьниц с гинекологическими заболеваниями (отмечены случаи заболеваний у 10-летних девочек), а также то, что "в обществе прививается гомосексуализм, не свойственный нам".

В своем выступлении Заметалин противопоставил врачей журналистам, претендующим на то, что они — "четвертая власть", тогда как на самом деле никакой власти не являются. На власть, по его мнению, "самую большую претензию" могли бы иметь врачи, поскольку они способствуют появлению человека, сопровождают его в последние минуты жизни и обеспечивают ему жизненный комфорт.

**БелаПАН**

